РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА



Жыве Беларусь!

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Wolne Glebokie

Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць! Янка Купала

Free Hlybokaye

Выдаецца са снежня 1994 года.
№21 (53), кастрычнік, 2000 года.
Кошт па дамове

## Добры дзень, нашы паважаныя чытачы і ўсе распаўсюджвальнікі «Вольнага Глыбокага»!

Хочам падзякаваць Вам за інтарэс да нашага выдання і за тыя высілкі, якія Вы прыкладаеце, распаўсюджваючы і набываючы незалежнае вольнае слова. Радуе тое, што кіёскі «Саюздруку» актыўна дапамагаюць нам: колькасць прададзеных экземпляраў газеты, асабліва ў цэнтральных кіёсках -- на аўтастанцыі, ля ўнівермага і на плошчы «17 верасня» -- увесь час расце. Бывае і такое, што газет на ўсіх жадаючых не хапае. І тады людзі тэлефануюць у рэдакцыю-- мы палавінім свой архіў і дапамагаем усім атрымаць газету. Калі Вы заўважылі, у ліпені - жніўні «Вольнае Глыбокае» выходзіла на васьмі палосах, а гэта значыць змяшчала ў сабе матэрыялаў удвая больш, чым раней, А кошт яе ўдвая не павялічыўся -- 45-50 рублёў -- гэта самая танная і насычаная разнастайнай, ад рэспубліканскай да мясцовай, інфармацыяй газета. Нешматлікі калектыў рэдакцыі разумее наколькі сёння складана выжыць і робіць усё магчымае, каб слова -- добрае і разумнае, аснова асноў, было даступна і маладым, і пажылым.

Сёння хочацца заспакоіць усіх, хто трывожыцца лёсам нашага выдання-- калі не з`явіцца чарговы бесталковы дэкрэт, мы будзем працаваць для Вас і расказваючы пра Вас, паважаныя чытачы. Жывы думае пра жывое, і мы на перспектыву хочам, калі дазволяць тэхнічныя магчымасці, перайсці на тыднёвік, зрабіць укладыш з праграмай тэлеперадач, пашырыць рэкламу. Добраахвотнікі ёсць, самавучкі займаюцца на курсах павышэння кваліфікацыі, няштатныя аўтары ў школе пачынаючага журналіста, якая пачынае работу пры рэдакцыі. Мы разумеем, што якасную чытаемую газету могуць зрабіць толькі апантаныя, творчыя людзі, якія маюць адпаведную адукацыю, навыкі і вопыт.

І яшчэ адна цікавая задумка ўзнікла ў нашых галовах. Мы штомесячна будзем цікавіцца продажам нашай газеты праз кіёскі і тая кіяскерка, якая прадасць найбольшую колькасць, не толькі пацвердзіць сваё майстэрства прадаваць і рэкламаваць, але і атрымае прыз ад нашай рэдакцыі. І яшчэ. Гэта ўжо зварот да чытачоў. Хто зробіць падпіўку «Вольнага Глыбокага» пачынаючы з сакавіка 2000 года, менавіта з гэтага часу газета паступіла ў продаж, і першы пакажа яе нам напярэдадні Новага, 2001 года, таксама будзе заахвочаны.

Чытайце нас і заставайцеся прыхільнікамі вольнага беларускага слова!

*Супрацоўнікі «ВГ»*

## Беражыце сэрца

Прычынай частых смерцяў у Беларусі з`яўляюцца сардэчна-сасудзістыя захворванні.

Чарга на аперацыі на сэрцы распісаная ажно да 2006 года. Кожны чацвёрты беларус мае ў арганізме павышаны ўзровень халестэрыну, кожны трэці мужчына, старэйшы за 30 гадоў, хварэе на гіпертанію, што, збольшага, ёсць вынік грамадска-сацыяльнага стрэсу, 45% мужчын кураць. Усе гэтыя факты якраз і павялічваюць верагоднасць захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы ў 10-20 разоў. У выніку, штогод ад інфаркту міякарда гіне 15 тысяч беларусаў. Яшчэ 5 гадоў таму назад гэтая лічба складала 12 тысяч.

## Не шкадуем бліжняга

Жыхар Глыбокага П. нядаўна ў парыве рэўнасці нанёс пяць смяртэльных ран ударам нажа былой жонцы. Другі «рыцар», таксама п`яны, ледзь не забіў родную маці. Апошнім часам на Глыбоччыне ўзбуджаны тры крымінальныя справы за пагрозу забойства бліжняга і адна па факту зверскіх здзекаў у сям`і. У адносінах 32 сямейных дэбашыраў былі прыменены судовыя пакаранні.

Не спакайней наконт крыміналу і ў іншых мясцовасцях. Так, на Вілейшчыне 30-гадовая жанчына з-за рэўнасці прырэзала мужа. А ў Маладзечне абрыдлага мужа жонка да смерці забіла чапялой.

*У. Шык*



Фота Уладзіміра Скраўнгуна

Скончана падрыхтоўчая праца над кнігай «Легенды, паданні азёрнага краю» краязнаўцы Івана Іванавіча Волкава з Псуі. Гэта выданне падрыхтавана на грамадскіх пачатках супрацоўнікамі і валанцёрамі «Вольнага Глыбокага». Фактычна -- гэта дайджэст публікацый аўтара, змешчаных у «Весніку Глыбоччыны», «Звяздзе», і, зразумела, у «Вольным Глыбокім».

На здымку: *І.І. Волкаў (у цэнтры) сярод грамадскіх распаўсюджвальнікаў «Вольнага Глыбокага» Зміцера Лупача (злева) і Зміцера Курцэвіча (справа).*

## Наш горад памаладзеў

З самага пачатку кар`еры новага старшыні Глыбоцкага выканкама М. М. Кандзерскага, распачаліся дружныя работы па акультураванню горада. Спачатку асфальтавалі цэнтральныя вуліцы і «лапілі» бакавыя, затым клалі бардзюры, прыбіралі, вывозілі смецце, садзілі дрэвы, разбівалі кветнікі. Ля «зялёнага» магазіна зарослы травой трохвугольнік на вачах перарадзіўся на заходні манер.

Перазахаваны астанкі нямецкіх салдат. У плане гарадскіх улад рэканструкцыя стадыёна, пабудова канцэртнай залы. Неабходныя работы па выратаванню Глыбоцкай царквы скончыліся яшчэ ў ліпені. Зараз запушчанае раней месца ля царквы не пазнаць: хутка там забуяюць кветкі.

І хоць цяжка з грашыма, на Глыбоччыне зарплаты выплочваюцца з невялікім спазненнем. Бачна, што новы старшыня, дарэчы, ураджэнец Глыбоччыны, энергічны, дзейсны і ініцыятыўны, стараецца і для горада, і для ўсіх, хто ў ім жыве. На мой розум, чым вылучаць у парламент ад Глыбоччыны чужога нам мінчаніна Хрола, ці не лепш адправіць свайго прадстаўніка, земляка М. М. Кандзерскага? Таго прыезджага мы будзем бачыць і чуць толькі перад чарговымі выбарамі, а з гэтым мы жывём, бачым яго працу. Я б лепш прагаласаваў за свайго, чым за прышлага.

Агульнымі намаганнямі гараджан, прадстаўнікоў дзяржаўных і грамадскіх арганізацый можна зрабіць Глыбокае цэнтрам паўночна-заходняй цывілізацыі, горадам, дзе будзе прыемна жыць не толькі нам, але і нашым дзецям, унукам.

*М. Пяскоў*

## Паўнастаўнік - паўселянін

Пры Польшчы вясковы настаўнік меў павагу: пры сустрэчы з ім людзі здымалі шапкі і ветліва раскланьваліся. Урад выдзяляў настаўніку жыллё пры школах і нядрэнны на той час заробак. Настаўнікі тады трымалі прыслугу, а калі і корпаліся ў агародзе сярод кветнікаў, то толькі дзеля асалоды.

Сёння малюнак іншы -- беларускі настаўнік прыніжаны і маральна, і матэрыяльна. Так, педкалектыў Казлоўшчынскай школы Пастаўскага раёна водпуск правёў у полі. Як і іншыя школы, гэту «ўзнагародзілі» заданнем па нарыхтоўцы зялёнай масы. Педагогам гэтай школы прыйшлося накасіць ажно 24 тоны! Акрамя гэтага, за кожным настаўнікам замацавана 30 сотак калгасных буракоў. «Адпачыўшы», педагогі выйдуць на працу. Паўнастаўнікі-паўсяляне, якія за лета ці прачыталі хоць адну кніжку, пойдуць на ўрокі, каб сеяць «разумнае і вечнае».

## Поспех у Сеуле стаў пропускам у БДУ

Выпускнік Лужаснянскай гімназіі для таленавітых дзяцей,хлопец з Падсвілля Арцём Кохан уступныя экзамены ў БДУ не здаваў, бо даўно ўжо зарэкамендаваў сябе на міжнародным узроўні. Два гады назад, дэбютуючы на Сусветнай матэматычнай алімпіядзе на Тайвані, Арцём упэўнена ўвайшоў у тройку лепшых. Летась ён вярнуўся з Румыніі з залатым медалём, а нядаўна другі раз пацвердзіў свае веды на алімпіядзе у Сеуле -- сталіцы Усходняй Карэі. У беларускай камандзе школьнікаў, якая заняла сёмае месца сярод 83 краін, бронзавы медаль заваяваў сябра Арцёма па гімназіі Дзіма Дорын. Хлопцаў рыхтаваў вядомы выкладчык Міхаіл Волкаў. Арцём меў прапановы працягваць вучобу ў вядомых ВУЗах свету, але, да радасці бацькоў, ён вырашыў вучыцца ў беларускай сталіцы.

## У магазін без грошай

Скажаце: дажыліся беларусы да светлай камуністычнай будучыні -- ужо тавары ў магазіне без грошай бяруць. Тавар-то бяруць, толькі святла наперадзе нябачна, бо магазіны пачалі адпускаць неабходнае на спісак не ад лёгкага жыцця. Працоўныя калгаса «Шлях да камунізму» Мёрскага раёна на шляху ў той камунізм ужо набраліся ў доўг. Мясцовы гандаль увайшоў у адчайнае становішча калектыву і адпускае тавары па гарантыйнаму пісьму.

Ужо тры месяцы калгаснікі і іншых гаспадарак не атрымоўваюць ні граша.

На Віцебшчыне напярэдадні жніва больш двухсот гаспадарак з пяцісот яшчэ не былі разлічыўшыся з людзьмі за працу на сяўбе. На селектарнай нарадзе кіраўнікі вобласці паабяцалі ліквідаваць запазычанасць па зарплаце спачатку да 15 жніўня, пасля да 1-га верасня. На 12 жніўня па вобласці былі не выплачаны 3 млрд. 431 млн. 347 тысяч рублёў доўгу, у тым ліку сялянам -- 2,9 млрд. 13-14 жніўня -- выхадныя дні, значыць, людзі павінны былі атрымаць грошы 12-га. Павінны, але не атрымалі. Гэта лішняе пацверджанне таму, што словы і абяцанні ўлад нічога не варты.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» ў Глыбокім**

**1050**

# Рэгіянальны экспрэс

## УСЁ ЖЫЦЦЁ Ў ЧАРЗЕ

16-ты год пайшоў, як стаў на чаргу на ўстаноўку тэлефона інвалід Айчыннай вайны 2-ой групы Аляксандр Іванавіч Церах з вёскі Гарэлае Докшыцкага раёна. Быў ён першы ў спісе, але згубіў усялякую надзею займець падобную «цывілізацыю». Крыўдна ўдвая франтавіку ад таго, што ў Бягомльскай АТС ёсць свабодныя нумары, але няма ў сувязістаў грошы, каб пракласці ў вёску 11 кіламетраў кабельнай лініі. Падобных жыцейскіх бед у раёне не злічыць. У замежных краінах людзей забяспечваюць сотавымі тэлефонамі, але беларусы жывуць быццам у іншай эпосе: колькасць жадаючых мець звычайны тэлефон па краіне дасягае 450 тысяч чалавек. У гэтай чарзе стаіці нямала і глыбачан.

## КУРЫЛЬШЧЫК РЫЗЫКУЕ ЎДВАЯ

**Да жаху бацькоў адразу ў чатырох падлеткаў Пастаўшчыны ва ўзросце 7-14 год былі выяўлены анкалагічныя захворванні.**

Раней высокі паказчык смяротнай хваробы звязваўся з размяшчэннем на землях раёна ядзернай ракетнай зброі. Але ўжо сем год прайшло, як апошнюю боегалоўку вывезлі, а хвароба веку прагрэсіруе. Калі ў 1994 годзе ў раёне было 400 ракавых хворых, то зараз больш за 600. Штогод хвароба выяўляецца ў 120 жыхароў раёна, да сотні іх у муках пакідаюць гэты свет. Лідыруе рак лёгкіх, захворванні страўніка, скуры. Выяўляць небяспечныя хваробы на пачатковай стадыі пастаўскім медыкам дапамажа апаратура УЗІ фірмы «Сіменс», атрыманая па лініі фонда «Дзецям Чарнобыля».

## БУДЗЕМ СЯБРАВАЦЬ ГАРАДАМІ

**Падпісаннем дамовы паміж Паставамі і італьянскімі гарадамі Сан-Арэста і Рэньена Фламінія аб развіцці супрацоўніцтва ў сацыяльнай сферы завяршыўся тыднёвы візіт беларускай дэлегацыі на Апеніны.**

У апошнія гады італьянцы са сталічнай правінцыі Рома ўзялі шэфства над Пастаўскай сіроцкай школай-інтэрнатам. Акрамя матэрыяльнай дапамогі, сонечная Італія два разы на год прымае ў сябе дзесяткі пастаўскіх дзетак, пазбаўленых бацькоўскай ласкі. Некалькі выхаванцаў інтэрната ўжо знайшлі сабе там прыёмных бацькоў.

## ДЗЕ МУЗЫКА, ТАМ І ТАНЦЫ

**Ні адна значная падзея ў культурным жыцці Шаркоўшчынскага раёна не абыходзіцца без удзелу мясцовага ансамбля народнай музыкі «Карніцкія музыкі».**

У пачатку 90-ых гадоў яго стварыў настаўнік Юзаф Падоба. Ад свайго мужа не захацела адставаць і мастацкі кіраўнік сельскага Дома культуры Баляслава. Узяўшы за аснову танцы мінулага гэтай мясцовасці, яна арганізавала землякоў у танцавальную групу пры ансамблі. Многія ўдзельнікі-сямейныя пары. І хоць танцоры працуюць толькі другі год, у іх рэпертуары яркія кампазіцыі «Кракавяк», «Кагорд», «Падэспань» і іншыя.

## ДАЁМ ЦЯГУ, БРАТКІ, З КАЛГАСАЎ

**У калгасе імя Чапаева Мёрскага раёна практычна кожная другая карова сёлета не ацялілася, а без папаўнення статку здаровым маладняком губляецца ўсялякі сэнс жывёлагадоўлі. Можа жывёла адчувае, што няма тут спецыялістаў і ні ў кога ні за што душа не баліць ?**

Ды што там жывёла?! За тры з лішнім гады з гаспадаркі звольніўся 31 чалавек -- пятая частка ранейшага калектыву. І хоць зараз тым, хто працуе на сяле, пачалі налічваць за цяжкую работу па 60-70 тысяч, людзі атрымаюць абясцэненыя грошы добра калі восенню, а есці, апранацца, лячыцца трэба сёння, зараз. Таму і бягуць людзі куды вочы глядзяць, каб зарабіць ды пражыць.

**У. Шык**




## *Неверагоднае* ІНШАПЛАНЕЦЯНЕ СПАКУСІЛІСЯ НА БЕЛАРУСКАЕ ЗЕРНЕ?

**У аддаленым кутку рэспублікі, у Віцебскай вобласці, побач з райцэнтрам Расоны, на жытнім полі, знойдзены таямнічыя колы. Такога цуду тут яшчэ ніхто не бачыў.**

На ўскрайку поля размешчаны чатыры колы -- адзін вялікі, дыяметрам 24 метры ў цэнтры і тры чатырохметровыя вакол цэнтральнага. Жыта ўнутры фігур як быццам адпрасавана, па спіралі ад цэнтра прымята да зямлі так моцна, што ні камбайнам, ні касой, ні сярпом яго ўжо не падняць. Ды і навошта падымаць, калі каласкі пустыя, абмалочаныя?

**Старшыня калгаса «Расоны» Міхаіл Уладзіміравіч Вярцінскі** заклапочаны неверагодным:

-- Кілаграмаў семдзесят зерня прапала. Яшчэ кілаграмаў дзвесце згубім пакуль увесь пасёлак на экскурсію сходзіць. Стопчуць жыта. Прынесла ж іх (іншапланецян -- *рэд.*) у разгар уборкі. Сваіх праблем мала дык яшчэ і гэта звалілася. А можа мне грошы за паказ поля браць? Па долару з чалавека. Глядзіш, калгас на іншапланецянах разбагацее.

Тут гавораць менавіта пра іншапланецян, бо, па-першае, іншага тлумачэння дзіўным колам няма, а па-другое, ёсць сведкі. І яны не дзеці, а дарослыя, сур'ёзныя людзі.

**Жыхар вёскі Клясцічы Барыс Скарыновіч малады фермер.**

--Учора ноччу па прасёлачнай дарозе вяртаўся дадому. Прама нада мной талерка ляцела. Крыху свяцілася -- на дне тры яркабелыя кругі. І ляцела ўздоўж дарогі, якраз па майму шляху. У мяне душа ў пяткі. Валасы, лічы, дыбам сталі. Думаю, сядзе пасярод дарогі, зацягнуць яшчэ куды. Паднаціснуў на газ, прыехаў дадому, а талерка над залівам завісла. Жонку, дачку разбудзіў -- усе ўтраіх бачылі. Ад яе пасля тры маленькія талерачкі аддзяліліся. І хутка ж лятаюць гэтыя штуковіны!

**Інжынер рамонтна-тэхнічнай службы з Расон Генадзь Васільеў** некалькі дзён начаваў у маці ў вёсцы Карзунова (вёска знаходзіцца якраз насупраць поля з таямнічымі коламі). Вось што ён расказаў:

-- Ноччу заснуць не мог. Раптам у акне зарыва адлюстравалася. Паглядзеў, ля лесу быццам касцёр гарыць. І моцны такі, яркі -- дрывамі такога не даб'ешся, вядро саляркі плёснуць трэба. Я яшчэ падумаў: навошта гэта моладзь кастры паліць? Свята ж Івана Купала прайшло. А зараз колы гэтыя знайшлі. Я прыкінуў: якраз з жытнёвага поля свет ішоў.

Незвычайнае здарэнне, накшталт гэтага, адбылося нядаўна яшчэ ў адным раёне рэспублікі. Там была «дзірка ў полі некалькі метраў глыбінёй, як хто свідравіну прабурыў». Свідравіна па цэнтру была і ля Расон. Тут, праўда, незямныя цывілізацыі яшчэ і зерне абмалацілі. Скончыліся, відаць, харчы, яны і прыхапілі з сабой пару мяшкоў калгаснага...

Жарты жартамі, але месца здарэння павінна быць даследавана і вывучана спецыялістамі. Хацелася б, каб яны вывучылі анамальную з'яву і зрабілі кампетэнтныя высновы..

## Стары альбом «Вольнага Глыбокага»



**Глыбокае, 1935 г. Памятная брама, збудаваная на дзень прыезду Прэзідэнта Польшчы ў Глыбокае.**

**Свята Божага Цела, у браме -- вайсковы алтар.**

***Фота з архіву Соф'і Кухта (г. Утрэхт, Галандыя)***

Памятная брама была пабудавана ў 1930 г. з нагоды прыезду ў Глыбокае прэзідэнта Польшчы Ігнацыя Масціцкага. Знаходзілася яна на вуліцы Замкавай (цяпер Леніна) на месцы, дзе цяпер: злева -- магазін ВінКон, справа -- музычная школа.

Брама была пабудавана ў стылі гатычнай даўніны, што вельмі стасавалася з назовам вуліцы (Замкавая). На ёй меўся надпіс «Nie rzucim ziemi skąd nasz ród...» (Не пакінем зямлю -- адкуль наш род...»

Пад час наведвання Глыбокага Ігнацый Масціцкі выязджаў у вёску Старыя Шарабаі, якая была спустошана пажарам у навальніцу. Дзякуючы польскаму прэзідэнту, жыхары атрымалі пазыку на адбудову вёскі. На другім баку Глыбокага, па вуліцы Віленскай, па шляху прэзідэнта ў Шарабаі, была ўзведзена больш сціплая брама.

**У.С.**

## ГАЗ У ГЛЫБІНЦЫ

**Прыход новага начальніка І. Падрэза ў Докшыцкае раённае прадпрыемства газавай гаспадаркі адзначыўся ўводам тут свайй газавай кацельнай.**

Аўтаматызаваная ўстаноўка не толькі значна павялічыла магутнасць і цеплааддачу, але дазволіла палепшыць умовы працы работнікаў: цёпла зараз стане ў гаражах. Рэканструіруецца былы адміністратыўны корпус. Хутка тут будуць душавыя, лазня, свая кухня, сучасныя бытавыя памяшканні. Кіраўніцтва таксама ўзяло за мэту абслугоўваць усіх спажыўцоў у глыбінцы, а гэта 14772 абанентаў. Галоўнае, што хваліе людзей, быў бы газ.

## МЕНЕЙ СТАЛІ ЕСЦІ ХЛЕБА?

**Яшчэ год назад гасцей з Літвы і Латвіі, якія наведвалі Браслаў, здзіўлялі чэргі за хлебам. Але прайшоў час і ўсё змянілася. Таннага хлеба няма, ён зараз каштуе больш за 260 рублёў, няма і чэргаў.**

Так, мясцовы Браслаўскі хлебазавод працуе зараз толькі ў адну начную змену і забяспечвае прадукцыяй не толькі насельніцтва свайго раёна, але і адпачываючых на Браслаўскіх азёрах, і суседзяў з Шаркоўшчынскага раёна. Магутнасці завода выкарыстоўваюцца менш, чым напалову. За суткі выпускаецца 10 тон хлебабулачных вырабаў і больш тоны кандытарскіх. Для хлебапёкаў лета -- самы спрыяльны перыяд. Калі з азёр і з базаў адпачынку з'едуць апошнія госці, аб'ём продажу хлеба зменшыцца ўдвая.

Апошнім часам у хлебных крамах Глыбокага зрэдку бывае хлеб па 124 рублі.

**У. Шык**

ПА ТОЙ БОК МЯЖЫ

Уладзімір Шык,
*Паставы*

## 4.Сканеры на выбарчых участках

Як і беларусам, літоўцам восенню трэба будзе выбіраць сабе новы парламент. Сёлета за 141 месца ў Сейме будзе ісці вострая, але ў рамках карэктнага супраціву, барацьба.

Літоўцы ўжо ведаюць, хто з палітыкаў чым дыхае, і прывыклі беспамылкова адзначаць у бюлетэні патрэбныя ім прозвішчы. Не пашкадавалі тут грошай і ўсе выбарчыя ўчасткі абсталявалі камп`ютэрнай сістэмай са сканерамі. У спісе партыі, або кааліцыі, за якую галасуеш, трэба адзначыць пяць прозвішчаў канкрэтных палітыкаў. Сучасная тэхніка імгненна выводзіць рэальны рэйтынг папулярнасці. Толькі такім чынам, набраўшы найбольшую колькасць галасоў, можна прыйсці да жаданай улады.

Адмовіліся ў Літве і ад самага зручнага прыёму ў савецкія часы -- перанасных скрынак і масавага датэрміновага галасавання, менавіта гэтыя перажыткі мінулага былі выкарыстаны ў нас на апошнім рэферэндуме.

У Літве ўжо прывыклі да паняццяў «правячая большасць і меншасць». Існуе размежаваны падзел паміж рознымі галінамі ўлады. Грамадства разумее, што манапольная ўлада гэтак жа дрэнна для краіны, як і наўянасць аднапартыйнай дыктатуры. Гэта тым больш важна, бо гісторыя сведчыць, што найбольшых дасягненняў у эканамічнай, сацыяльнай і іншых сферах жыцця дабіваліся менавіта тыя краіны, дзе забяспечаны дэмакратычны лад і свабоднае волевыяўленне народа.


Тракайскі замак -- сведка сівой мінуўшчыны.

# Ад маскоўскіх каманд да еўрапейскіх стандартаў

*Заканчэнне, пачатак у №№15-16 (47-48), 17-18 (47-48), 19-20 (51-52) за 2000г.*

Літва стала на шлях моцнай парламенцкай рэспублікі з існаваннем адначасова прэзідэнта краіны, які мае чыста прадстаўнічыя функцыі. Уразіла мяне і маіх сяброў-беларусаў адкрытасць іхняга грамадства. У вышэйшы заканадаўчы орган краіны -- Сейм -- на адкрытыя пасяджэнні ходзяць на экскурсіі школьнікі, студэнты, людзі, якія цікавяцца палітыкай. Акрэдытаваным журналістам дазволены ўваход ва ўсе кабінеты дэпутатаў і прадстаўнікоў фракцый. Кіраўнікоў краіны дазваляецца фатаграфаваць і здымаць на відэакамеру паўсюдна, нават за абедам у рэстаране. Нягледзячы на нападкі друку, з`едлівыя каментарыі і шаржы, той жа В. Ландсбергіс не зазлобіўся, па ранейшаму адкрыты і просты ў адносінах з людзьмі.

Друк, між іншым, не прапускае ніводны промах палітыка, або ўрадавага чыноўніка. Калі той жа В. Ландсбергіс прыехаў у Каўнас на пахаванне кардынала В. Сладкявічуса, газеты не прамінулі адзначыць, што старшыня Сейма доўга не з`яўляўся ў кафедральным саборы. Журналісты напісалі, што высокі чыноўнік ў суправаджэнні целаахоўніка спачатку заехаў у мясцовы філіял дзяржпрадпрыемства кадастра і рэгістра зямлі і атрымаў там патрэбны дакумент, заплаціўшы 60 літаў. У адпаведнасці з ім, Ландсбергіс стаў уладальнікам вялікага былога бацькоўскага дома, які перайшоў сыну на правах спадчыны. Справіўшы сваё, ён паехаў па дзяржаўных справах.

У горадзе ўсе ведаюць, што старшыні Сейма належыць таксама дом на вуліцы Данелайчэ. Паколькі ў краіне свабода слова, то газеты пішуць, што старэючаму лідэру кансерватараў папраўкай у закон аб пенсіях была ўстаноўлена дзяржпенсія ў памеры 6,5 тысяч літаў у месяц, такая ж, як першаму прэзідэнту Бразаўскасу. Наогул, чытаць літоўскія газеты, асабліва калі яны на рускай мове, цікава і павучальна. Гэта не савецкі друк, а самыя сапраўдныя газеты заходняга тыпу і накірунку.

Не без гонару паведаміў мне аглядальнік газетнага холдынга «Летувос Рытас» Ёнус Бартусявічус, што ў іх калектыве працуе больш за 1200 чалавек, з іх больш двухсот журналістаў. Хай наша прэзідэнцкая «Советская Белоруссия» кусае локці, ведаючы, што літоўскае выданне ўтрымлівае свае карпункты ў Вашынгтоне, Рыме, Берліне, Парыжы, Хельсінкі, Маскве і па дагавору мае аўтара ў Мінску. Хоць перад крушэннем савецкай імперыі салдаты з захопленага Дома друку ўкралі ўсё, нават першыя чатыры камп`ютэры, калектыў выжыў, набыў новае абсталяванне, цвёрда стаў на ногі. Заробкі пачынаючых рэпарцёраў зараз 500 і болей долараў у месяц. Зароблене журналісты атрымліваюць, як і ў цэлым па краіне, у канвертах і не расказваюць аб сваіх даходах канкурэнтам.

Паспяхова развіваюцца і іншыя выданні--сапернікі, уключаючы газеты «Рэспубліку» са сталіцы і рэгіянальную «Кауно дзено». Ад дзяржаўных газет -- органаў выканкамаў і саветаў -- нашы суседзі адмовіліся яшчэ ў 1992 годзе. Тады была праведзена прыватызацыя і раздзяржаўленне мясцовага друку. Чужых у гэты працэс не пускалі, акцыі выкупілі толькі газетчыкі і тэхперсанал. Ніводная «раёнка» з таго часу не закрылася. І хоць у параўнанні з вялікімі гарадамі яны жывуць больш сціпла, карэспандэнты ж зарабляюць больш, чым настаўнікі і дактары. У глыбінцы людзі аддаюць перавагу мясцовым газетам: іх колькасць за сем год са 127-іх вырасла да 886-ці выданняў.


Вільня. Палац спорту.

Грамадскім застаецца пакуль і першы канал нацыянальнага тэлебачання. А вось яшчэ тры тэлеканалы кантралюе шведскі і амерыканскі капітал. Многія засталіся незадаволенымі, што з новага года разам з кватплатай штомесячна трэба будзе ўносіць 4 літы /1долар/ за прагляд перадач ЛТР. А вось што нас, беларусаў, парадавала, дык гэта арганізацыя дастаўкі падпісчыкам свежых нумароў газет. У адпаведнасці з заходнімі стандартамі, самыя цікавыя навіны, каментары і журналісцкія расследванні тут можна паспець пачытаць за кубкам ранішняй кавы перад адыходам на працу.

У полі зроку
Шаркоўшчына

# Краязнаўцы збіраліся ў Германавічах

**Год за годам аддаляюцца падзеі 20-ых гадоў адыходзячага стагоддзя. Падзеі трагічныя, адзначаныя грамадзянскай вайной. Не абышлі яны і наш Шаркоўшчынскі край. Летам 1920 года на тэрыторыі нашага раёна адбыліся баі паміж палякамі і бальшавікамі.**

80-гадовым угодкам гэтых падзей і была прысвечана краязнаўчая канферэнцыя, якая адбылася ў вёсцы Германавічы ў ліпені гэтага года. Арганізаваў яе цэнтр Язэпа Драздовіча.

Гэта канферэнцыя сабрала людзей улюбёных у свой край, краязнаўцаў, якія па драбінках збіраюць гістарычныя звесткі аб Шаркоўшчынскім раёне. «Далёкія 20-ыя»-- так называўся даклад Ады Эльеўны Райчонак, стваральніцы музея, адной са старэйшых настаўніц раёна. Яна аналізавала падзеі тых гадоў з двух пунктаў гледжання. З аднаго боку былі прадстаўлены сведчанні бальшавіцкіх камандзіраў М.М. Тухачэўскага і Г.Гая. З другога боку, польскага, сведчанні Ю.Пілсудскага. У кожнага сваё разуменне, свая праўда. А для беларусаў гэтыя падзеі неслі разруху, голад, няшчасці, бо вайна ішла на беларускай зямлі і кожны бок імкнуўся папоўніць свае войскі беларускімі жаўнерамі, простымі сялянамі і рабочымі. Аб гэтым сведчаць і загады Ю. Пілсудскага і тэлеграма У.І. Леніна.

Расказ пра падзеі падоўжыла Ганна Леанардаўна Філіпёнак. Яна аналізавала кнігу нашага земляка, пісьменніка Міхася Машары «Ішоў 20-ы год». Знаёмыя назвы мясцін, імёны людзей -- нібыта сама гісторыя заходзіла да нас і расказвала пра нашу зямлю, нашых землякоў-удзельнікаў і сведкаў таго часу.

Настаўнік гісторыі і краязнаўца Кліменцій Арсенцьевіч Кажан падрыхтаваў найцікавейшы даклад «Загадкавасць асобы беларускага генерала Булак-Балаховіча». Са здзіўленнем даведаліся прысутныя, што гэты знакаміты генерал -- наш зямляк. Ён нарадзіўся ў вёсцы Мішты, што непадалёк мястэчка Відзы. Доўгі час ён жыў у Лужках, блізка ад Германавіч, быў упраўляючым маёнтка, ажаніўся з мясцовай дзяўчынай, дачкой Лужкоўскага аптэкара Гарбеня. Шмат невядомых старонак у жыцці Булак-Балаховіча і судзіць дадатная ён ці адмоўная дзеючая асоба нашай гісторыі, нельга. І ўсё ж ён быў асобай, асноўнай мэтай жыцця якога была ідэя незалежнасці Беларусі. Дарэчы, ён карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод насельніцтва. Аб гэтым сведчыць такі факт: калі бальшавікі прыгаварылі да расстрэла сям`ю генерала, мясцовыя жыхары схавалі яго дзяцей.

З цікавасцю выслухалі прысутныя і іншых удзельнікаў канферэнцыі. Спадабалася праца маладога супрацоўніка музея імя Я.Драздовіча Алеся Адамковіча з дакладнымі картамі-чарцяжамі месцаў баёў, якую ён назваў «Трыумфальнае падзенне ідэй «Седана»». Падрабязнае апісанне падзей у час бальшавіцкага паўстання 1919 года падрыхтавала настаўніца гісторыі Германавіцкай СШ Пучынская Іна Сямёнаўна. Заключным стаў даклад Абломавай Ірыны Віктараўны «Шляхі дакладнасці».

Але яшчэ доўга не разыходзіліся ўдзельнікі канферэнцыі, гутарылі, абмяркоўвалі, вызначалі новыя тэмы для даследванняў. Вельмі шкадавалі, што не змаглі прыехаць спонсары канферэнцыі, прадстаўнікі грамадскага аб'яднання «Саюз палякаў» з горада Гродна, дзякуючы якім і адбылося мерапрыемства. На жаль, настаўнікі гісторыі мясцовых школ, якія таксама былі запрошаны, не прыйшлі на канферэнцыю.

А дарэмна. Малавядомы гістарычны мясцовы матэрыял быў бы вельмі цікавы для вучняў і настаўнікаў школ раёна.

*Сафія Табола*


Фота Ул. Скрабатуна

**Можна ўсё жыццё пражыць у Глыбокім і не ведаць, што ў нейкіх чатырох дзесятках кіламетраў ад горада знаходзяцца месцы і краявіды, якія не саступаюць па прывабнасці заморскім прыгажосцям. Гэтым разам экспедыцыя «Вольнага Глыбокага» завітала на возера Гінькава, ў стромкіх кручах якога знаходзіцца легендарная пячора і фрагменты агаленай скальнай пароды карставага паходжання. Возера Гінькава -- трэцяе па глыбіні возера Беларусі.**

## ТРАГЕДЫІ ЛЁСУ

### Пайшоў з жыцця маладым

**17-гадовага навучэнца Пастаўскага ПТВ-165 19 ліпеня знайшлі мёртвым побач з матацыклам у кювеце дарогі пры выездзе з вёскі Камаі.**

Як устанавіла следства, у поўнач яго збіў п`яны трактарыст калгаса «Дружба». Хто ведае: прыдзі ён на дапамогу пацярпеламу, можа той і застаўся б жывым. У раёне гэта ўжо шостая аварыя з удзелам матацыклістаў. У выніку іх трое хлопцаў загінулі. Толькі за паўгода 280 вадзіцеляў аўтамабіляў і матацыклаў былі затрыманы ў нецвярозым стане.

**У. Шык**

### Са зброяй не жартуй

**Ваенаслужачы адной з вайсковых часцей Барысаўскага гарнізона яфрэйтар Д. «жартуючы», стрэлам з аўтамата Калашнікава забіў свайго земляка з Бярэзінскага раёна радавога Стасевіча.**

Прызываліся хлопцы паўгода назад, добра ведалі адзін аднаго і пачалі дурэць. «Абараняючы» ад нападу пост, яфрэйтар незаўважна для сябе націснуў курок. Нечаканы для земляка стрэл у галаву аказаўся смяротным.

**А. Ермакоў**

### Смерць ахоўніка

**Ноччу 13 жніўня ў полацкай школе №16 памёр ахоўнік. Хутчэй за ўсё смерць была прымусовая, бо знайшлі яго звязаным, з кляпам ў роце.**

Са школы нічога не прапала, праўда, дзверы ў камп`ютэрны клас былі ўзламаны. Магчыма, нехта хацеў пагуляць у камп`ютэр, а ахоўнік перашкодзіў. Праца ахоўнікаў апошнім часам трапіла ў спіс рызыкоўных.

**А. Козік**

## ЦЫТАТА АПОШНЯЙ ПАЛАСЫ

**Самая чыстая радасць -- гэта зларадства, якое мы адчуваем, назіраючы няшчасці тых, каму мы зайздросцім.**

*Вольны пераклад нямецкай прымаўкі*
*Die reinste Freude ist die Schaden freunde.*





Фота Ул. Скрабатуна

**Ля шашы Полацк -- Вільня стаіць цікавы помнік гісторыі -- бетонны дзот. Да 1939 года тут праходзіла мяжа паміж Савецкім Саюзам і Польшчай.**

### Чалавек замёрз пад коламі самалёта

Труп расіяніна быў знойдзены ў адсеку шасі самалёта, які рабіў рэйс з Масквы ў Амстэрдам. Загінуўшаму быў 21 год. На ім было апранута шмат адзення. Гэта сведчыць аб тым, што хлопец рыхтаваўся да пералёту. У кішэні паліцэйскія знайшлі пашпарт, але імя расіяніна не паведамляецца. Вядома, што загінуў ён ад пераахалоджвання і недахопу кіслароду. Спроба пачаць жыццё на новым месцы не ўдалася.

*По матэрыялах друку*

**Вечарам 20 ліпеня ў Беразіно чалавек спаліў сябе. Выпіўшы, ён яшчэ днём абяцаў жонцы вогненны фейерверк.**

Каля 9 гадзін вечара, знаходзячыся у салоне свайго «Масквіча-412», ён абліў сябе бензінам і пстрыкнуў запалкай. Мужчынафакел выйшаў з машыны, па словах сведкаў, папрасіў прыкурыць у пажарных, якія

### Згараючы, самазабойца папрасіў прыкурыць

прыбылі на месца здарэння. Пацярпелага, ледзь не са 100%-нымі апёкамі цела, прывезлі ў бальніцу, дзе ён і памёр.

**К. Данілаў**

**У першую жнівеньскую ноч у сталічнай школе №80 адбыўся пажар. Пажарныя знайшлі труп мужчыны.** Як высветлілася, два браты (аднаму 20, другому 17 год) вырашылі ўкрасці ў школе дзве акустычныя сістэмы. Ахоўніка зарэзалі нажом, а каб схаваць сляды зла-

### Браты забілі ахоўніка і падпалілі школу

чынства, будынак падпалілі. Братоў затрымалі, яны ва ўсім прызналіся.

**К. Данілаў**

### Адна радасць -- напіцца і забыцца

**Амаль не бывае апошнім часам такога дня, каб пуставаў Глыбоцкі медвыцвярэзнік. У дні авансаў і зарплат, а таксама ў выхадныя і святочныя дні, тут людна, што на рынку.**

За першае паўгоддзе ў медвыцвярэзніку «пераначавалі» 509 чалавек, уключаючы 17 непрацуючых жанчын. Большасць кліентаў -- маладыя людзі да 30 год. А Аляксандру з вуліцы Мінскай і яго цёзку з Шунеўцаў самы раз заказваць сюды пастаянныя пропускі. На «адпачынак» у «мойку» з пачатку года іх дастаўлялі ўжо чатыры разы.

Сумны лёс чакае такую краіну, у якой для людзей няма большай радасці чым папойка да забыцця.

**У. Шык**



## Бясплатныя прыватныя абвесткі

**Прадаецца дом**

**з гаспадарчымі пабудовамі, нядорага ў в. Міхайлаўка (прыгарад Глыбокага).**

**Тэл. у Глыбокім 2 35 37**

***

**Прадаецца хата ў вёсцы Завараты.**

**Ёсць студня, сад, хлеў. Кошт па дамове.**

**Звяртацца на адрас: Глыбоцкі раён, 211821, п/а Дзеркаўшчына, в. Латыголь, Лупач Уладзімір Зыгфрыдавіч.**

***

**Прадаецца BMW-524 Турба-дызель, 1983 года выпуску ў добрым стане, рухавік 1990 года. Цэнтральны замок, люк, гідраўзмацняльнік руля. Расход паліва -- 7 л. на 100 км.**

**Кошт па дамове. Тэлефанаваць у Глыбокім 2 37 54.**

***

**Прадам або абмяняю коней на аўтамашыну «Жыгулі» Пісаць на адрас: Феакціст Фядотаў, в. Дубнякі, Вароніцкі сельсавет, Полацкі раён або тэлефанаваць у Наваполацк па нумары 8-(244) 2 85 18 з 20<sup>00</sup> да 21<sup>00</sup>.**

***

**Будую хаты, гаражы, хлявы, падмуркі, платы з каменя Тэл.: 2 37 54 (у Глыбокім)**

***

**Тэрмінова прадаецца**

**легкавы дызельны аўтамабіль**

**Mitsubishi -- Colt 1986 г. выпуска. Пяціступеньчатая КПП, аб`ём рухавіка 1,8. Звяртацца па тэлефоне 2 12 74 (у Глыбокім).**

***

**Жадаючыя атрымаць новую кнігу славутага Міколы Ермаловіча «Беларуская дзяржава Вялікае Княства Літоўскае» дашліце замову, свой дакладны адрас і 2200 рублёў Алесю Міхайлавічу Сабаленка, п/с 268, 220131, Мінск-131. Кнігу атрымаеце праз пошту. У Мінску кнігу можна набыць ў сядзібе Таварыства беларускай мовы: Мінск, вул. Румянцава, 13.**



## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

З інфармацыяй аб парушэнні Вашых грамадзянскіх правоў Вы зможаце звярнуцца да прадстаўнікоў Беларускага Хельсінскага камітэта па правах чалавека ў Глыбокім: **2 37 54, 2 19 38**; у вёсцы Заазерцы Шаркоўшчынскага раёна **2 31 11**; у Паставах **2 27 58**. Усе антыканстытуцыйныя факты будуць зафіксаваны, а Вы зможаце атрымаць і бясплатную юрыдычную кансультацыю і канкрэтную дапамогу.

***

**Паважаныя былыя выпускнікі Дзісненскай школы-інтэрната!**

Адгукніцеся на адрас: в. Заазерцы, Шаркоўшчынскага раёна, тэл.: 2 31 11, **Табола Соф`я Міхайлаўна.**




**Нацыянальны прэс-цэнтр Беларусі запрашае прыняць удзел у СЕМІНАРЫ 12-13 кастрычніка ў Мінску (двухдзённы)**

Выкарыстанне новага Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь у бухгалтарскім уліку і яго ўплыў на падаткаабкладанне. Узаемасувязь з новай рэдакцыяй Закона «Аб бухгалтарскім уліку і справаздачнасці»

**1.** Выкарыстанне новага Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь у бухгалтарскім уліку і яго ўплыў на падаткаабкладанне.

**2.** «Аб новай рэдакцыі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб бухгалтаскім уліку і справаздачнасці» і іншых новаўвядзеннях у галіне рэгулявання бухгалтарскага ўліку (нацыянальныя стандарты, якія прымаюцца і рыхтуюцца)

**Удзельнікам семінара будзе выдадзены аб`ёмны і вычарпальны па зместу пакет дакументаў.**

**Кошт удзелу -- 26 400 рублёў (у тым ліку ПДВ 20% -- 4 400 рублёў). Дзейнічае сістэма зніжак!**

**Запіс і даведкі па тэл. (017) 226-72-61, 226-86-81, факс 223-55-40.**

«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб`ём -- друкаваны аркуш. Падпісана ў друк 29 верасня 2000 года ў 13-30.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 121

Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў

Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 5733